ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 93 (1627) | Пятніца, 24 лістапада 1961 года | Цана 4 кап.



## ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ СЛОЎНІКІ

Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР закончыў работу над першым руска-беларускім слоўнікам грамадска-палітычнай тэрміналогіі. Новы слоўнік найбольш поўны з усіх, якія выпускаліся ў апошнія гады ў саюзных рэспубліках. Ён складаецца прыкладна з 17 тысяч тэрмінаў.

Цяпер сектарам навуковай тэрміналогіі інстытута падрыхтаван руска-беларуска-лацінскі батанічны слоўнік. Вядзецца работа над руска-беларускім слоўнікам сельскагаспадарчых тэрмінаў. Збіраюцца матэрыялы для слоўнікаў лінгвістычнай і матэматычнай тэрміналогіі.

## Грамадскі мастацкі савет горада

Пытаннямі добраўпарадкавання і архітэктурнага афармлення сталіцы рэспублікі займаецца створаны пры Мінскім гарвыканкоме грамадскі мастацкі савет. У яго ўвайшлі архітэктары і дзеячы мастацтваў, прадстаўнікі партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый.

Члены савета бяруць пад свой кантроль афармленне вуліц, плошчаў, паркаў, прамысловых будынкаў, архітэктуру малых форм, вітрыны магазінаў, інтэр'еры гарадскіх магістралей. Грамадскі гарадскі мастацкі савет упарадкуе і цэнтралізуе пытанні вядзення мастацка-афармляльных работ, выпуску масавай прадукцыі для ўпрыгожання быту.

У бліжэйшы час прадугледжваецца абмеркаваць праекты раду паркаў, азелянення і добраўпарадкавання буйных магістралей, што вядуць у горад.

## БЕЛАРУСКІ ФІЛЬМ Ў ПОЛЬШЧЫ

У Польскай Народнай Рэспубліцы з вялікім поспехам прайшлі Дні савецкага кіно. На экранах польскіх кінатэатраў дэманстраваліся лепшыя творы нашай кінематаграфіі. Увагу польскіх гледачоў і кінакрытыкаў прыцягнуў і наш беларускі мастацкі фільм «Чалавек не здаецца», які паказваецца ў Польшчы пад назвай «Паручнік Марынін».

Польскія рэцэнзенты адзначаюць значнасць тэмы гэтага фільма, дзе рэалістычна адлюстраваны карціны першых дзён вайны. Так, газета «Штандар млодых» раіць сваім чытачам прагледзець беларускі фільм. Адводзяць свае старонкі для паказу ў той ці іншай ступені вартасцей нашага фільма і часопісы «Фільм», «Экран» і «Пшэкруй». Рэцэнзенты станоўча ацанілі ігру маладой артысткі Л. Лужынай, якая выконвае ролю Любы.

350 тысяч тамоў — такі кніжны фонд Гомельскай абласной бібліятэкі імя Ул. І. Леніна. Але да гэтага часу бібліятэка знаходзілася ў старым, малапрыстасаваным будынку. Чытальная зала была маленькая і зразумела, што вялікая колькасць літаратуры ляжала ў сховішчах. Наведвальнікі бібліятэкі ёю не карысталіся.

Нядаўна гамяльчане атрымалі цудоўны падарунак. Тут закончана будаўніцтва трохпавярховага дома — новай абласной бібліятэкі. У ёй абсталяваны вялікая чытальная зала на 200 месц, пакоі для навуковай работы, ёсць і лекторый. Адкрыецца шырокі доступ чытачам да літаратуры. Акрамя мастацкіх твораў рускіх, беларускіх і савецкіх пісьменнікаў, шматлікіх навукова-тэхнічных прац, палітычнай і сельска-гаспадарчай літаратуры наведвальнікі будуць мець магчымасць пазнаёміцца з унікальнымі экземплярамі кніг на нямецкай, французскай, арабскай і іншых мовах. На здымку — новы будынак бібліятэкі.



Рыгор НЯХАЙ

# ЖЫВАЯ ЛЕГЕНДА

Месяц знаходзілася брыгада беларускіх пісьменнікаў у Цалінным краі. Неабсяжныя прасторы гэтага краю. За месяц мы здолелі пазнаёміцца толькі з яго невялікай часткай — Кустанайскай вобласцю. Ды і то не ўсю яе аб'ехалі, бо па тэрыторыі яна амаль раўняецца тэрыторыі нашай Беларусі. Мы былі ў Цалінаградзе, Какчатаве, Паўладары, Петрапаўлаўску.

Кустанайская вобласць складае амаль трэцюю частку Цаліннага краю, і ўсё, што характэрна для яго сёння, можна было ўбачыць і тут, калі толькі добра прыгледзецца да жыцця. Тут, як у фокусе, сканцэнтраваны ўсе тыя працэсы, што адбываюцца на ўсёй цаліне — і станаўленне маладых саўгасаў, створаных пяць-шэсць год назад, і разгортванне ўдарных новабудоўляў сямігодкі, і наладжванне новага ўкладу жыцця.

Мы наведалі Кустанай, цэнтр Сакалоўска-Сарбайскага жалезаруднага басейна—горад Рудны, прамысловы цэнтр Джаты Гару, цэнтр Мендыгарынскага раёна — Баравое, саўгас «Мінскі» і многія іншыя саўгасы вобласці. Усюды адбываліся літаратурныя вечары, сустрэчы з рабочымі, служачымі, студэнтамі. Мы расказвалі аб жыцці рэспублікі, аб поспехах беларускага народа ў камуністычным будаўніцтве, аб развіцці і дасягненнях беларускай літаратуры, чыталі свае творы, адказвалі на шматлікія запытанні.

Сустрэчы былі надзвычай цікавыя.

Самае важнае і самае карыснае, што мы вывезлі з гэтай паездкі, я лічу тое, што мы хоць крыху надыхаліся атмасферай кіпучага жыцця слаўнага Цаліннага краю, пра які мы многа чулі і чыталі, хоць на момант адчулі энтузіязм, які пануе там усюды, куды б ні паехаў; ці ў саўгас, ці на індустрыяльную новабудоўлю. Падарожжа выклікала шмат думак, разважанняў.

У Цалінным краі мы былі ў перадз'ездаўскія дні, у дні работы гістарычнага XXII з'езда КПСС і вярталіся дадому, калі вялікі форум камуністаў ужо закончыўся. Гэта была шчаслівая пара, бо мы бачылі герояў цаліны ва ўсёй іх духоўнай велічы, ва ўсім размаху высокага працоўнага энтузіязму. І працаўнікі сацыялістычных палёў, і рабочыя прадпрыемстваў, партыйныя і савецкія кіраўнікі, як бы зліліся ў адзіны суцэльны арганізм, жылі адным творчым гарэннем — праславіць Радзіму новымі працоўнымі поспехамі. З розных куткоў нашай неабсяжнай краіны яны прыехалі ў гэты нязведаны край па закліку сваіх палымяных сэрцаў.

Гэты новы край па закліку партыі ўзняты да жыцця ў непаўторныя дні будаўніцтва камунізма. Дык хай ён і будзе такім, якім стварае яго эпоха, вартым нашага велічнага часу.

У гісторыі мы маем нямала прыкладаў асваення новых зямель, ведаем і амерыканскую «залатую ліхаманку» і шмат іншых прыкладаў вар'яцтва капіталістычнага свету. Капіталісты, як галодныя сабакі на костку, кідаліся на новыя тэрыторыі, шкуматалі іх, хто колькі ўгрызе, а потым пакідалі гэтыя землі.

Мы беражом багацці сваёй зямлі як добрыя і дбайныя гаспадары. Ужо на нашай памяці пачыналася асваенне Усурыйскай тайгі, будаўніцтва Камсамольска-на-Амуры, пачаліся распрацоўкі багатай Магнітнай гары, стварэнне другой металургічнай базы на Урале. І ці трэба напамінаць аб тым, якую гэта адыграла вялікую ролю ў часе Вялікай Айчыннай вайны, калі замерлі данецкія шахты, замоўклі домны, спыніліся канвееры магутных металургічных і машынабудаўнічых заводаў Украіны.

Цяпер мы будуем для міру, для шчасця людзей. І тое, што сёння будзе збудавана, увойдзе ў камунізм, зойме там сваё пачэснае месца. А калі так, то ўсё гэта павінна быць прыгожым, зручным для жыцця і працы чалавека. Працоўныя Цаліннага краю гэта добра разумеюць. Яны патрабавальныя да сябе і да другіх.

У дні XXII з'езда КПСС мы былі ў Рудным. Увесь горад быў на працоўнай вахце — гарнякі, будаўнікі, мантажнікі, машыністы, шафёры. Вось некаторыя іх працоўныя здабыткі: гарнякі Сакалоўска - Сарбайскага горнаабагачальнага камбіната далі ў падарунак з'езду дзесяткі эшалонаў звышпланавай высакаякаснай жалезнай руды і вывезлі з руднікоў у адвалы больш мільёна кубаметраў пустой пароды звыш плана. Як прыемна было назіраць нам,




беларусам, за работай мінскіх 25-тонных аўтасамазвалаў, якія дапамагаюць гарнякам паспяхова выконваць сямігодку.

Будаўнікі 5 кастрычніка выканалі дзесяцімесячны план будаўніча-мантажных работ і замест 55 тысяч далі 55196 квадратных метраў жылля для рабочых. Пабудавалі новыя школы, сталовыя, дзіцячыя сады, магазіны.

Горад расце і прыгажэе літаральна ўвачавідкі. Будаўнічыя работы не спыняюцца ні ноччу, ні днём. Ідуць пасадкі дрэў і кустарнікаў. А прамысловыя аб'екты занялі плошчы, якія не акінеш і вокам. Там расце магутны металургічны завод, горнаабагачальны камбінат і шмат іншых прадпрыемстваў цяжкай прамысловасці. А побач ідуць работы па стварэнню новых рудных кар'ераў, раскрываюцца новыя кладоўкі зямлі. Сакалоўска-Сарбайскі камбінат будзе даваць самую танную і самую высакаякасную руду ў свеце. Запасаў яе хопіць на многія сотні год. Побач жа знаходзяцца Лісакоўскае і іншыя месцанараджэнні, дзе залежы руды, як сцвярджаюць вучоныя, практычна невычэрпныя. І ўсё гэта знаходзіцца амаль на паверхні зямлі. Варта толькі зняць сорак метраў пустой пароды, і пачынаецца магутны пласт руды ў некалькі соцен метраў таўшчынёй. І гэтыя невычэрпныя багацці асвойваюць рудненскія гарнякі. І тут на кожным кроку напаткаеш сапраўдных герояў нашых дзён, нашых будучых кніг. Яны, гэтыя героі, пакінулі свае абжытыя кватэры ў вялікіх гарадах, паехалі ў голы стэп, жылі на марозе ў палатках, перанеслі ўсе цяжкасці, але не адступілі. Збудавалі свой горад, пасадзілі сады, раскрылі нетры зямлі. І яны, зразумела, ганарацца сваім працоўным подзвігам. Паспрабуйце цяпер рудненцу прапанаваць пераехаць у другі самы найлепшы горад — не паедзе, пакрыўдзіцца.

Так хочацца чым больш пабыць там, пажыць сярод гэтых цудоўных людзей, каб расказаць потым у кнігах аб іх нязгасным энтузіязме. І паветра тут добрае для здароўя. Калі ўжо лета, дык лета, а калі зіма, дык зіма ва ўсёй сваёй прыгажосці. І восень такая ж цёплая, як у нас, і дыхаецца лёгка.

Мы едзем у саўгас «Мінскі», што знаходзіцца на поўначы Кустанайскай вобласці на мяжы з Курганскай.

Думаеш, чаму тут пасяліліся мінчане? Пад'язджаеш бліжэй і пачынаеш разумець. Аказваецца, у гэтых мясцінах такія ж кучаравыя бярозавыя гаі, як і ў Беларусі, і шмат азёр, што густа зараслі чаротам, і карасі, як на Паліку. Дзе-нідзе пракідаюцца нізкія разгалістыя сосны. Беларусы аблюбавалі гэтае месца. Прыехалі са Слуцка, з Барысава. Раскінулі над возерам палаткі і пачалі разворваць цаліну. Усякае бывала — некаторыя не вытрымалі і паўцякалі. Але большасць ветэранаў засталася, абжылася тут, пабудавала дамы, завяла сякуютакую гаспадарку.

Знаёмімся з вельмі інтэлігентным чалавекам па прозвішчу Пратасеня — трактарыстам са Случчыны. Ён ветэран саўгаса. У 1956 годзе разам з дырэктарам саўгаса Георгіем Васільевічам Мазонкам за высокі ўраджай атрымаў ордэн Леніна. Скончыліся палявыя работы, і хлопец засумаваў без работы. Хоча паехаць дадому ў адпачынак.

Наколькі высокі ўзровень механізацыі ў Цалінным краі, можна меркаваць па саўгасу «Мінскі». Там 35 тысяч гектараў зямлі. Ворнай — 20 тысяч, а рабочых працуе толькі каля шасцісот чалавек. І спраўляюцца ўсё зрабіць у час. І пасеяць, і зжаць, і фермы дагледзець і сад, і тэхніку адрамантаваць, і будавацца.

Няма ўжо палатак на беразе возера, замест іх вырас добраўпарадкаваны рабочы пасёлак—жылыя дамы, кантора, магазіны, сталовая, клуб, бібліятэка, лазня і нешта накшталт гасцініцы, разбіты парк, а каля яго размясціліся бальніца і дзіцячы сад.

Усё добра, але тут і пачынаецца самая сур'ёзная размова з дырэктарам і сакратаром партыйнай арганізацыі саўгаса. Не хапае будаўнічых матэрыялаў, самых простых — шкла, цвікоў, лесу. Машыны стаяць у чыстым полі. Не хапае самых простых запасных частак, абсталявання для рамонтных майстэрняў. А чыгунка далёка — 150—200 кіламетраў. Пачалі будаваць чатыры двухпавярховыя дамы, а закончыць няма чым.

— Дык вось, — кажа дырэктар. — Мы з вамі лічымся землякамі. І вы, і мы — мінчане. Як кажуць, кроўная радня, а вы нам ніводнага цвіка не прыслалі. Як жа гэта так? А?..

Нам было сорамна тым больш, што саўгасу «Мінскі» дапамагаюць і харкаўчане, і свердлаўчане. Значыцца, трэба, каб адно з буйнейшых прадпрыемстваў нашай сталіцы ўзяло шэфства над саўгасам, а культурнае шэфства павінен узяць хоць бы Саюз пісьменнікаў і іншыя творчыя арганізацыі рэспублікі.

Нядрэнна было б нам, пісьменнікам, напісаць гісторыю гэтага саўгаса, гісторыю герояў асваення цаліны, у тым ліку і нашых землякоў — беларусаў.

На цаліне працуе шмат беларусаў. Яны хочуць мець кніжкі на роднай мове. Украінскі кнігагандаль здолеў арганізаваць продаж кніжак на цаліне для сваіх землякоў, а Белкнігагандаль і не падумаў аб гэтым. Мы ва ўсіх рабочых бібліятэках пакідалі беларускія кніжкі, часопіс «Полымя», але ж гэта кропля ў моры!

Шмат цікавага пабачылі мы ў гэтую паездку. Радуецца сэрца, што тысячы людзей адгукнуліся на заклік партыі адкрыць незлічоныя багацці Цаліннага краю для росквіту, для ўмацавання магутнасці нашай любімай Радзімы.

Трэба часцей практыкаваць пасылку пісьменніцкіх брыгад туды, дзе столькі новага, цікавага, захапляючага. Вялікія тэмы, моцныя характары будаўнікоў камунізма мы знойдзем там.

## ЧАТЫРЫ ДНІ ПЕСЕНЬ



Чатыры дні праходзіў у Мінску рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў, якому папярэднічалі раённыя і абласныя конкурсы. У іх удзельнічала каля трох тысяч вакалістаў, музыкантаў, чытальнікаў; лепшыя з іх заваявалі права пазнаёміць са сваёй творчасцю працоўных беларускай сталіцы.

На сцэне Мінскага Палаца культуры прафсаюзаў выступалі ўсё новыя і новыя выканаўцы — спевакі, інструменталісты, чытальнікі — з самымі разнастайнымі творамі нашых класікаў і савецкіх, у тым ліку беларускіх, паэтаў і кампазітараў. Не прафесіянальныя акцёры, а звычайныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, якімі так багата Савецкая Беларусь, спаборнічалі паміж сабой, стараючыся заваяваць першыя прызавыя месцы і перасягнуць адзін аднаго не толькі ўмелым падборам рэпертуару, але і якасцю выканання, майстэрствам.

Конкурс аматараў мастацтва! Удумайцеся ў сэнс гэтых слоў і вы зразумееце, якое вялікае значэнне набыла ў нас мастацкая самадзейнасць як у горадзе, так і на вёсцы і як трывала ўвайшла яна ў наша штодзённае культурнае жыццё. Людзі ад станка і камбайна, рабочыя, калгаснікі, інжынеры і педагогі, людзі фізічнай і разумовай працы не проста запаўняюць вольны ад работы час удзелам у розных самадзейных гуртках. Яны стараюцца дасягнуць чагосьці большага і значнага ў сваіх творчых імкненнях, вырасці ў сапраўдных артыстаў аматарскай сцэны.

Паглядзіце на прывабны, поўны душэўнай прыгажосці твар Вольгі Шутавай — работніцы Брэсцкага дыванoвага камбіната (здымак справа). У вачах яе свецяцца вясёлыя агеньчыкі, а ўся яна захоплена задорнай жартаўлівай песняй. Добра спяваць тое, што па сэрцу, што выклікае ў выканаўцы высокія пачуцці. Вользе падабаецца песня «Пакахала старшыню», і таму яна з такім натхненнем даносіць да слухачоў гумарыстычны сэнс твора.

Больш за ўсё ў конкурсе ўдзельнічала вакалістаў, многія з якіх валодаюць вельмі прыгожымі і яркімі галасамі. Кожны, хто слухаў арыю Ігара ў выкананні мінскага юрыста Г. Чарнышова або песню спевака за сцэнай з оперы Арэнскага «Рафаэль» у выкананні брэсцкага інжынера А. Маліцкага, серанаду Сміта з оперы Бізэ «Пертская прыгажуня» ў выкананні слесара гомельскага завода імя Кірава І. Гарэліка, маглі пераканацца ў вялікай таленавітасці гэтых выканаўцаў, у іх уменні ўдумліва, з вялікім густам перадаваць змест складаных класічных твораў.

Выканаўца прыпевак на мясцовыя тэмы даярка Я. Ляўковіч з саўгаса «Багданаўскі» Ашмянскага раёна, юны цымбаліст са Смаргоншчыны Ю. Церабун, ксілафаніст ваеннаслужачы В. Шаўроў, вакальны дуэт у складзе работнікаў Лідскай абутковай фабрыкі С. Кліменка і З. Бянько і іншыя— усе яны, выступаючы на рэспубліканскім конкурсе, зачаравалі гледачоў сваёй непасрэднасцю, шчырасцю, маладым запалам сваіх сэрцаў.

Любы акцёр-прафесіянал мог бы пазайздросціць майстэрству і тэмпераменту Т. Грабеннікавай — выкладчыцы школы механізацыі з Нароўлі. Урывак з «Краіны Мураўіі» А. Твардоўскага яна вельмі ўдала меладэкламавала пад баян, прыгожа спявала і па-заліхвацку прытанцоўвала, расказваючы аб эпізодзе вясёлага народнага свята.

Кожнаму з маладых самадзейных артыстаў былі ўласцівы нейкія свае, індывідуальныя рысы, свая манера выканання. А ўсіх іх разам аб'ядноўвала вялікая любоў да мастацтва, з якім яны звязалі свой лёс і надоўга пасябравалі.

Г. СІЦЯК.

[Гл. стар. 2-ую, 3-юю].

# СТАРОНКІ ТВОРЧАГА ЖЫЦЦЯ

◆ КІНАНАРЫС ПРА КАНДРАТА КРАПІВУ ◆

Стварэнне партрэтнага нарыса ў дакументальным кіно — справа цяжкая і адказная. Асабліва, калі герой фільма вядомы і папулярны чалавек сярод мільёнаў савецкіх людзей. Тым больш прыемна ўбачыць на экранах рэспублікі новую ўдалую работу Мінскай студыі навукова-папулярных і дакументальных фільмаў аб народным пісьменніку Беларусі Кандрату Кандратавічу Крапіве.

Першыя ж кадры гэтай карціны адразу ўводзяць нас у атмасферу шматграннага і багатага падзеямі жыцця выдатнага майстра беларускай літаратуры, які шчодра адарае людзей радасцю і весялосцю. Тонкім гумарам прасякнуты пачатковы эпізод фільма.

К. Крапіва заўважыў ля плота на агародзе парасткі чортапалоху. Нават у такім будзённым месцы гэта кроўны вораг прафесіянала-сатырыка. Хутчэй вырваць з коранем! Каб і духу пустазелля тут не было! І трэба бачыць К. Крапіву ў гэтым сімвалічным паядынку, каб зразумець, з якой настойлівасцю і ўпартасцю вытручвае ён усялякую дрэнь, што імкнецца засмеціць «наш савецкі агарод».

Аўтары фільма — рэжысёр С. Браудэ, аўтар сцэнарыя А. Макаёнак — паказваюць крыніцы іскрамётнага гумару народнага пісьменніка, вытокі яго, быццам страляючых, твораў. Мы бачым вёску Нізок на Уздзеншчыне, дзе нарадзіўся К. Крапіва. Невялічкая драўляная хатка, тыповая для былой, занядбанай беларускай вёскі. Тут пачалі фармавацца прагрэсіўныя погляды будучага пісьменніка. І калі над краінай узняўся чырвоны сцяг Кастрычніка, К. Крапіва аддаў увесь свой талент, усе свае сілы барацьбе за пабудову новага грамадства.

У кінанарысе прыведзены першыя друкаваныя творы пісьменніка, якія ў 20-х гадах пачалі змяшчацца на старонках «Красноармейской правды» і «Савецкай Беларусі». Да іх адносіцца і вядомы верш «Крапіва», які раскрывае сутнасць літаратурнага псеўданіма пісьменніка і кірунак яго творчасці: не аднаму «абармоту» пякучка-крапіва «рукі-ногі папякла».

Аўтары фільма паказваюць дзейснасць вершаў і вершаваных фельетонаў пісьменніка ў барацьбе супраць ворагаў савецкага ладу і, у прыватнасці, супраць цемрашальства, папоўшчыны.

— Кінь, Ілья, пустое дзела:
Твая тэхніка ўстарэла.
Ну якая ў тым патрэба,
Што калоціш часам неба? —

спяваюць хлопцы і дзяўчаты на вясковай вуліцы каля царквы.

Значна ўзбагачаюць фільм урыўкі з п'ес К. Крапівы ў выкананні артыстаў Тэатра імя Янкі Купалы. Майстэрства Г. Глебава, Л. Рахленкі, Б. Платонава, Л. Ржэцкай, В. Пола, Ул. Дзядзюшкі і іншых майстроў беларускай сцэны ў спалучэнні з талентам драматурга надало дакументальнаму нарысу прывабныя якасці мастацкага ігравога фільма: дакладнасць перадачы самых тонкіх пачуццяў, наяўнасць унутраных канфліктаў і г. д. Тут аўтары не паскупіліся на паказ драматургіі Крапівы. Ад сарказму да тонкай іроніі, ад публіцыстычнай прасталінейнасці да мяккага спачування — увесь гэты багаты арсенал сродкаў мастака раскрывае задуму аўтараў фільма. Гэта, бадай, самыя эмацыянальныя эпізоды нарыса. Зроблены яны з густам і пачуццём меры. Яны ні ў якім разе не разрываюць плынь асноўнай лініі фільма, не вырываюцца з дакументальнай тканіны жыцця сатырыка.

На высокім прафесіянальным узроўні зроблена тая частка нарыса, дзе гаворыцца аб творчасці К. Крапівы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Пісьменнік-патрыёт у сваіх творах заклікаў да бязлітаснай барацьбы з фашысцкімі разбойнікамі, услаўляў гераізм партызан і савецкіх воінаў. Ён працаваў у франтавой газеце «За Савецкую Беларусь», рэдагаваў сатырычны плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну», дзейснасць якога аўтары фільма трапна параўноўваюць са знішчальнымі гарматнымі залпамі. У 1943 годзе Радзіма ўзнагародзіла пісьменніка-воіна ордэнам Чырвонага Сцяга.

Не засталася па-за фільмам і багатая грамадска-навуковая дзейнасць К. Крапівы. Мы бачым пісьменніка сярод дэлегатаў з'езда Кампартыі Беларусі і на сесіі Вярхоўнага Савета БССР, сярод піянераў і на сустрэчы з калгаснікамі. Прысутнічаем мы і на семінары драматургаў, дзе віцэ-прэзідэнт АН БССР К. Крапіва дзеліцца сваім багатым вопытам тэарэтыка і бліскучага практыка савецкай сатырычнай камедыі з літаратарамі малодшага пакалення. З уласцівым яму гумарам Крапіва высмейвае тых, хто спрабуе ўстанавіць нейкія рэцэпты для пісання камедыі, адважыць літаральна на грамы станоўчыя і адмоўныя рысы герояў сучаснай літаратуры.

Пры ўсёй сваёй ілюстрацыйнасці нарыс не губляе галоўнага — высакароднай прыгажосці чалавека. На працягу ўсяго фільма мы бачым Кандрата Кандратавіча Крапіву з уласцівымі яму звычкамі. Новы фільм Мінскай кінастудыі выклікае добрае ўражанне: быццам ты сустрэўся і пагутарыў з выдатным чалавекам. І разам з аўтарамі фільма мы далучаемся да слоў паэта П. Глебкі: «Кандрат Крапіва такое яшчэ прыдумае, што ніякая старасць да яго не падступіцца. І не аднойчы яшчэ мы і пасмяёмся і парадуемся з Кандратам Кандратавічам, як не адзін раз смяяліся і радаваліся дагэтуль».

І. ВЕСНІК.

# ЧАСОПІС ПРОСІЦЦА Ў БІБЛІЯТЭКУ

У бібліятэцы Магілёўскага металургічнага завода мяне сустрэла Алена Іосіфаўна Старавойтава.

— Прабачце за непарадак, — сарамліва сказала яна. — Толькі з адпачынку вярнулася...

Мяне цікавіла пытанне, да якога, як мне здавалася, Алена Іосіфаўна мела самае непасрэднае дачыненне.

— Як чытаюць літаратурна-мастацкія часопісы «Полымя», «Маладосць», «Неман»? — з такім пытаннем звярнуўся я да загадчыцы.

— Часам пытаюць, — замялася загадчыца, — але мы іх не выпісваем.

— Чаму?

— Заўком грошай не адпускае...

Васіль Гаўрылавіч Зорын — старшыня заўкома — на гэтае пытанне адказаў больш катэгарычна:

— Гэтыя часопісы на беларускай мове.

— А часопіс «Неман»? — перапытаў я.

— І «Неман» таксама...

— ?!

Пасля гэтага цяжка было штонебудзь сказаць. Было ясна, што старшыня заўкома сам не цікавіцца сучаснай беларускай літаратурай і не займаецца арганізацыяй падпіскі.

Некаторы час мы ўсе трое няёмка маўчалі.

— А што вы ад мяне хочаце?— спытаў ён, устаючы са свайго крэсла.

— Грошай дайце, — узмалілася А. Старавойтава. — Мы абавязкова выпішам гэтыя часопісы...

Пасля некаторага роздуму Васіль Гаўрылавіч даў сваю згоду.

На гэтым эпізодзе можна было падрабязна не спыняцца. Але, на вялікі жаль, факт гэты настолькі тыповы, што пра яго варта гаварыць на ўвесь голас.

Нашы літаратурна-мастацкія часопісы ў бібліятэках не знайшлі шырокага попыту і, у першую чаргу, таму, што да распаўсюджвання іх ставяцца абыякава і некаторыя кіраўнікі заводаў, фабрык, сельскіх Саветаў і самі бібліятэчныя работнікі.

Цяпер праводзіцца падпіска на 1962 год. У радзе раёнаў прапагандзе і распаўсюджванню «тоўстых» літаратурна-мастацкіх часопісаў было аддадзена шмат увагі і, як вынік, падпіска на іх ідзе больш паспяхова, чым у мінулым годзе. Добра праходзіць падпіска на часопісы «Полымя», «Неман» і «Маладосць» у Гродзенскай вобласці, дзе ўжо сёння колькасць падпісчыкаў на асобныя з гэтых выданняў перавысіла вынік сёлетняга года.

Добра наладжана падпіска ў Крупскім, Слуцкім, Бярэзінскім, Пліскім, Браслаўскім, Жлобінскім, Рагачоўскім, Кармянскім, Веткаўскім раёнах. Для чытачоў бібліятэк гэтых раёнаў у новым годзе выпісаны агульнасаюзныя і рэспубліканскія літаратурна-мастацкія часопісы.

Аднак прыкладаў таго, што падпісцы часта не аддаецца належнай увагі, на жаль, яшчэ многа. Напрыклад, бібліятэка клуба мясцовай прамысловасці г. Магілёва выпісвае на 188 рублёў розных газет і часопісаў. Але ў кіраўнікоў клуба чамусьці не знайшлося грошай выпісаць рэспубліканскія літаратурна-мастацкія часопісы. Магілёўскі парк культуры імя Горкага выпісвае выданняў перыядычнага друку на 301 руб. У іх спісу можна знайсці такія часопісы, як «Журнал мод», «Модели сезона» і ніводнага рэспубліканскага «тоўстага» часопіса.

Ці вядомы гэтыя факты Міністэрству культуры БССР і Беларускаму рэспубліканскаму савету прафсаюзаў? Так, вядомы. Аднак ні Міністэрства культуры, ні Беларускі рэспубліканскі савет прафесіянальных саюзаў па сутнасці ніякіх практычных мер яшчэ не прынялі.

Не выпісваюць беларускіх літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў бібліятэкі сярэдніх і васьмігадовых школ.

— Няхай гэтыя выданні выпісваюць выкладчыкі за наяўны разлік, — адказаў намеснік міністра асветы БССР С. Умрэйка. — У нас грошай няма.

Цікава запытаць у тав. Умрэйкі, адкуль жа бяруцца грошы ў школах для падпіскі на іншыя часопісы? Вось некалькі прыкладаў: сярэдняя школа № 2 г. Шклова Магілёўскай вобласці выпісвае 24 выданні, сярод іх — усе вучэбна-метадычныя часопісы. Гэтая школа не выпісала не толькі беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў, але і рэспубліканскіх маладзёжных газет. Мастоўскі раённы аддзел народнай асветы выпісвае перыядычных выданняў на 291 руб. Жараслаўская сярэдняя школа Скідзельскага раёна выпісвае на 1962 год 23 выданні. І ніхто не паклапаціўся, каб у школьнай бібліятэцы былі і «Полымя», і «Маладосць», і «Беларусь».

Прыкладаў такіх многа.

Няма ніякай патрэбы даказваць, што ў школах не хапае сродкаў на выпіску перыядычных выданняў. Грошы ёсць, але яны выкарыстоўваюцца ў радзе выпадкаў нерацыянальна. А гэта прыводзіць да таго, што вучні старэйшых класаў пазбаўлены магчымасці знаёміцца з сучаснай беларускай літаратурай.

Беларускі літаратурна-мастацкі часопіс стукаецца ў дзверы многіх бібліятэк, але яму іх не адчыняюць. Так па волі некаторых работнікаў заўкомаў, фабкомаў, сельскіх Саветаў і іншых арганізацый чытачы пазбаўлены магчымасці карыстацца рэспубліканскімі часопісамі.

М. ПАЛУНІЧАЎ,
старшы інспектар упраўлення «Саюздруку».

